# Здымкі, якія атрымалі найбольшую колькасць балаў ад наведвальнікаў сайта BirdWatch.By



**Снимок сделан возле д. Акачи Слонимского района Гродненской области. Неторопливость полета сизоворонки позволила мне сделать замечательные кадры этой птицы.**

**Сіваграк *(Coracius garrulus)*. Фота Уладзіміра Янушэвіча**

**В тот день было очень тоскливо от пасмурного света и отсутствия орланов. Прилет канюка мгновенно поднял мое настроение. Но чего-то, как всегда, не хватало. Было непривычно темно. «Хоть бы снег пошел», – промелькнуло в голове. И тут посыпал густой тяжелый снег. Большие белые мухи тихо летали вокруг – я был совершенно счастлив.**

**Канюх-мышалоў *(Buteo buteo)*. Фота Андрэя Несцерава**



**Прывітанне, сябры!**

Прайшоў той час, калі фатаграфаванне жывой прыроды і, у прыватнасці, птушак было справай вузкага кола прафесійных біёлагаў. Цяжка адназначна сказаць, што ў большай меры паспрыяла гэтаму: тэхнічны прагрэс, які зрабіў агульнадаступнай лічбавую фотатэхніку, папулярызацыя «прыроднай» тэматыкі, павышэнне цікаўнасці людзей да прыроды ці проста магчымасць публікаваць свае здымкі... Сучасныя фатографы-анімалісты – людзі рознага ўзросту і прафесій, не абмінула гэтая «хвароба» і прадстаўніц прыгожага полу: здымаюць прыроду і жанчыны, ды яшчэ як здымаюць! Увесь свой вольны час гэтыя людзі праводзяць у пагоні за рэдкімі здымкамі, а самыя апантаныя з іх нават адпачынак плануюць так, каб можна было рэалізаваць тую альбо іншую фатаграфічную ідэю.

Найбольш папулярнымі «мадэлямі» фатографаў-анімалістаў з'яўляюцца птушкі, а самым ганаровым «трафеем» сярод іх – буйныя драпежнікі і совы. Зняць гэтых прадстаўнікоў птушынага царства і сапраўды няпроста: асцярожныя па сваей прыродзе, ды яшчэ навучаныя горкім вопытам, многія з іх не падпускаюць чалавека на гарматны стрэл, не тое што на здымак з фотастрэльбы. Вось тут і прыходзяць на дапамогу фатографу розныя вынаходніцтвы накшалт, скажам, буданоў-схованак на прыкормачных пляцоўках: азартна, спартыўна, прыносіць вынікі! Але ж ёсць і схованкі, зробленыя побач з гнёздамі... Таксама эфектыўна, толькі ці задумваюцца такія «фотааматары», што адбываецца з гняздом пасля таго як яны, зрабіўшы серыю здымкаў, пакідаюць тэрыторыю сваёй фотамадэлі? Паверце мне, у многіх выпадках гнёзды гінуць, і не толькі ў драпежнікаў. Тут дастаткова згадаць толькі тое, што такія «злодзеі» жывёльнага свету як куніца, сарока, шэрая варона адмыслова сочаць за чалавекам у лесе, каб потым праверыць усе месцы, дзе ён «завіхаўся». Здагадайцеся, з якой мэтай?

Многія прагрэсіўныя выданні аб прыродзе даўно ўжо адмовіліся ад публікацыі здымкаў птушак, зробленых каля гнязда. Думаецца, прыйшла чарга ўвесці такі мараторый і ПіМу. І таму, карыстаючыся трыбунай гэтага, спадзяюся, таксама прагрэсіўнага выдання, звяртаюся да ўсіх фатографаў: не здымайце птушак каля гнёздаў! Перамагайце сваіх «спарынг-партнёраў» у сумленнай барацьбе! Хіба не гэта ёсць праяўленне сапраўднага прафесіяналізму і дасканалага ведання біялогіі сваіх аб'ектаў?! Шчаслівых вам часоў на прыродзе і цудоўных фотатрафеяў!

**Сяргей Зуёнак**

# Змест






**Натураліст здымае барадатую кугакаўку на балоце Дзікое. Фота Аляксандра Сербуна**



ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»
Галоўны рэдактар: Фянчук Віктар Аляксандравіч
Адказны рэдактар: Зуёнак Сяргей Васільевіч




Вёрстка: Зміцер Гупянец
№ 2(19), 2011
Выходзіць з 1999 г.
Перыядычнасць 2 разы на год
наклад 1000 ас.
Рэгістрацыйны №727 ад 12.09.2009 г.
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь


Наш адрас:
ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»,
вул.Макаёнка, 8-313, 220114,
Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30, Факс (017) 263 06 13
E-mail: info@ptushki.org
www.ptushki.org

Для карэспандэнцыі
а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь



Дзейнасць ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» падтрымліваецца Каралеўскім таварыствам аховы птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.
ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі.
Надрукавана ў друкарні УП «Данарыт».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Замова № 2977









# Николай Бамбалов: «Как мощный источник энергоресурсов торф не имеет перспективы»

Беседовала Елена САДОВСКАЯ

Восстановленное после добычи торфа урочище Вертлишки. Фото Нины Тановицкой

## Ад рэдакцыі

Шаноўныя чытачы! У гэтым нумары мы вырашылі закрануць вельмі няпростае і балючае пытанне – аб далейшым лёсе нашых балот, своеасаблівай візітнай карткі нашай краіны, балот, якія даюць прытулак цэламу шэрагу ўнікальных жывёл і раслін, якія паводле сучасных даследаванняў, аказваюць магутны ўплыў на клімат Беларусі, паглядзець на якія, прыязджаюць аматары прыроды з усёй Еўропы...

Што здарыцца з імі праз паўсотні год, што пераважыць – меркантылізм альбо здаровы сэнс, залежыць толькі ад нас з вамі. Справа ў тым, што балоты – не толькі ўнікальны прыродны арганізм, але і крыніца шматлікіх карысных рэчываў, на жаль толькі, небясконцая. Каб высветліць, што даюць балоты эканоміцы, разам з журналісткай Аленай Садоўскай мы пагутарылі з акадэмікам Мікалаем Бамбалавым, адным з вядучых балотаведаў Беларусі. З адваротным бокам гэтага медалю – навошта балоты прыродзе і што можа здарыцца, калі мы іх згубім, – мы пазнаёмім вас у наступным нумары, таксама спаслаўшыся на выказванні аўтарытэтных спецыялістаў, сярод якіх, дарэчы, і прадстаўнікі тых краін, якія свае балоты ўжо згубілі.

Такім чынам, працяг будзе...

Болота — жемчужина в коллекции природных сокровищ Беларуси. Слава о них простирается далеко за пределами страны, открывая перед республикой необъятные горизонты для экологического туризма. Но не только раскрученным брендом обязано «багне» наше государство. В послевоенные годы белорусская экономика поднималась из руин во многом за счет извлекаемого из болотных недр торфа. Доля торфяной энергетики в топливно-энергетическом балансе республики достигала 64%. Неслучайно когда-то БССР называли торфяным Донбассом. Сегодня в стремлении снизить зависимость от импортируемых энергоресурсов правительство вновь обращается к болотам как к источнику ценного сырья. А значит, природа и ее нужды отходят на второй план. Как в такой ситуации соблюсти баланс интересов и каким должно быть правильное отношение к торфу, мы попытались выяснить у заведующего лабораторией биогеохимии ландшафтов Института природопользования Национальной академии наук Беларуси, доктора сельскохозяйственных наук, академика Николая БАМБАЛОВА.

**— Николай Николаевич, вы возглавляете лабораторию в научном учреждении, которое до 1990 года именовалось Институтом торфа. Много знаете об этом полезном ископаемом. Расскажите, пожалуйста, какие перспективные направления вы видите в его использовании?**

— Торф — уникальный природный компонент и ресурс. Главным направлением его использования должна быть глубокая переработка — химическая, термическая, биологическая и прочие. Например, путем глубокой химической переработки из него получают десятки видов продукции для промышленности, сельского хозяйства, медицины, косметики, а также для выполнения работ по точному литью в машиностроении. Ценность торфу придают особые вещества — гуминовые кислоты, которые не встретить в живых растениях, так как они формируются лишь в процессе торфообразования. Они обладают рядом полезных свойств: биологической активностью, цветностью, способностью к взаимодействию с металлами и органическими веществами.

Продукты глубокой переработки торфа имеют бактерицид-



Верховое болото Ельня. Фото Сергея Зуенка

ные и противовоспалительные свойства. Их используют при изготовлении медицинских, бальнеологических и косметических препаратов. Из торфа получают мази для лечения псориаза, лишаев, экзем, прежде считавшихся неисцелимыми, лекарства от глазных болезней, для ускорения заживления ран, срастания сосудов и нервных волокон после хирургических операций. На основе торфяного воска делают шампуни, средства для укрепления волос и борьбы с облысением, кремы от морщин и даже гипоаллергенную тушь для ресниц. Сегодня созданы перспективные препараты с противоопухолевой и противовирусной активностью.

Из этого полезного ископаемого производят натуральные красители — для древесины, бумаги, тканей, волокон. По интенсивности цвета и светостойкости они превосходят синтетические аналоги. Средства из торфяного воска хороши для полировки мебели, кожаных изделий, обуви.

Но это далеко не все. Совместно с Институтом почвоведения и агрохимии мы получили из торфа биологически активные микроэлементные удобрения «Элегум». Это очень перспективное для сельского хозяйства направление. Такие удобрения улучшают минеральное питание, стимулируют рост растений, снижают их заболеваемость, повышают урожайность культур и качество растениеводческой продукции. Коллеги из Института почвоведения и агрохимии провели трехлетние испытания, которые показали хорошие результаты. Внесение всего лишь одного литра микроэлементных гуминовых удобрений обеспечивает прибавку урожая пшеницы минимум на 5 центнеров с 1 га! При этом содержание белка в ней увеличивается до 0,8%, а клейковины — до 4,2%. Мы подсчитали: чтобы обеспечить Минскую область удобрениями, надо добыть не более 90 тонн торфа, на 6 областей понадобится 500 тонн. Это ничто в сравнении с почти 3 миллионами тонн полезного ископаемого, которые страна добывает в год!

**— Учитывая, как много полезного можно получить из торфа, может, разумнее отказаться от его добычи для производства топливных брикетов?**

— Не надо противопоставлять эти сферы друг другу. В топливно-энергетическом балансе страны полезное ископаемое должно занимать свою нишу, пусть и маленькую. Например, оно незаменимо в отдаленных районах, там, где невыгодно провести газ, доставить мазут или дрова. Торф может использоваться при отоплении местными котельными больниц, школ, детских садов.

**— То есть решать локальные задачи, не общегосударственные?**



Выработанные торфяные месторождения не пригодны для сельского хозяйства. Фото Нины Тановицкой



Клюква – только один из даров живого болота. Фото из архива АПБ



Поля добычи торфа. Фото Нины Тановицкой



Без обширных болот самый крупный кулик Европы не имеет шансов выжить. Фото Игоря Бышнева







Сверху вниз: торфоперерабатывающий завод, грузовой состав с торфом, торфобрикетный завод. Фото Дмитрия Винчевского

— Да. Как мощный источник энергоресурсов торф не имеет перспективы. Во-первых, дорожает добыча торфа, во-вторых, растет стоимость его транспортировки. Произвести и привезти брикет стоит дороже, чем его продают населению. Эту разницу заводу доплачивает государство.

**— Если гипотетически представить, что будет через 30 лет, когда выработается весь торф?**

— Во-первых, действующие торфобрикетные заводы будут переориентированы либо закрыты. Ведь в 1960-е годы насчитывалось 52 крупных предприятия, а сегодня их меньше 30. Во-вторых, территории, на которых добывался торф, или повторно заболотят, или засадят лесом, или передадут сельскому хозяйству. Наша лаборатория непосредственно занимается приведением в порядок выработанных торфяных месторождений. Мы сделали оценку состояния и дали рекомендации, что делать с такими территориями, для Минской, Гродненской и Брестской областей. Так вот, половина из них не годится для ведения сельского хозяйства. Лучше всего на таких землях восстанавливать водный режим. Да, это будет молодое болото, но постепенно оно начнет выполнять функции, присущие обычному, и там появится болотная растительность, живность.

**— В настоящее время в Беларуси насчитывается 228 тысяч гектаров деградированных торфяных почв. Есть ли решение этой проблемы?**

— Это отдельный вопрос, которым мы занимаемся много лет. Путей несколько. Первый — разработать новую технологию использования таких почв с посевом новых для наших широт засухоустойчивых растений. В отличие от торфяника деградированная песчаная почва плохо держит воду, особенно на полесских песках. И обычные сельхозкультуры на ней из-за недостатка влаги дают малый урожай, а то и вовсе гибнут в сухую пору. Другое дело — засухоустойчивые, они менее требовательны к водному режиму. Нужно посмотреть, какие из них растут в Украине, лесостепи, и адаптировать у нас. Но это отдельная наука. И она будет стоить денег.

Второй путь более простой. На оголившихся песчаных участках деградированных торфяных почв садить сосну. Она прекрасно себя чувствует на таких землях. Через 80 лет это будет хороший строевой лес.

В любом случае, я не вижу безнадежности. Надо работать. Земля — это ресурс, которым нужно разумно распорядиться.

# «Гісторыя аховы птушак у Гродна»: ад Яна Каханоўскага да Анастасіі Малышавай



**Фёдар ІГНАТОВІЧ**
**гісторык медыцыны і біялогіі, кандыдат медыцынскіх навук (Гродна)**



**Дзяніс ТАРАСЮК**
**нам. дырэктара СШ № 2, гісторык (Гродна)**

**«Хто разумее і любіць прыроду, той навучыцца любіць і шанаваць чалавека і Свет».**

**Ян Каханоўскі**



**Партрэт Яна Каханоўскага (з прыватнай калекцыі Яніса Поруліса)**

Як вядома, чалавек з'яўляецца не толькі прадуктам, але і стваральнікам навакольнага асяроддзя, яго прыродных і сацыяльных кампанентаў. Гэта выдатна разумеў Ян Каханоўскі (1894–1942), выдатны педагог і эколаг, добра вядомы ў Польшчы і Заходняй Беларусі. Яго знакамітыя продкі паходзілі з польскай шляхты герба Корвін.

Ян Каханоўскі працаваў у Гарадзенскай мужчынскай гімназіі імя Адама Міцкевіча з 1919 па 1939 год. Яму аднаму з нямногіх удалося выдатна спалучаць выкладанне біялогіі з краязнаўствам і экалогіяй. Гэта стала магчымым таму, што дзеля атрымання вышэйшай адукацыі і спецыяльнасці інжынера-педагога ён вучыўся ў некалькіх еўрапейскіх універсітэтах (Табож, Дэрпт і Варшава).

У сваёй педагагічнай дзейнасці Ян Каханоўскі імкнуўся ўсімі магчымымі метадамі выхаваць у навучэнцаў любоў да прыроды і адказнасць за яе будучыню. Яму належыць унікальны досвед, які не страціў свайго значэння дагэтуль: арганізацыя ў Гродна аховы птушак і дапамогі ім з прыцягненнем навучэнцаў гімназіі.

У створаным Янам Каханоўскім яшчэ ў 1920 годзе гуртку аматараў прыроды штогод займаліся да 50 навучэнцаў. З выхаваўчай мэтай і для дапамогі гарадскім птушкам, увосень 1930 года ён распрацаваў комплекс акцый. Пад яго кіраўніцтвам чальцы гуртка на некалькіх паседжаннях пазнаёміліся з кнігамі «Ахова птушак» і «Як моладзь можа ахоўваць прыроду», выдадзенымі Польскай лігай аховы прыроды. Самай папулярнай акцыяй стала дадатковае падкормліванне птушак узімку.

Пры матэрыяльнай падтрымцы выкладчыкаў і бацькоўскага камітэта навучэнцамі было зроблена 4 вялікіх і 86 малых птушыных «сталовак». Вялікія кармушкі былі развешаны ў пачатку снежня: тры з іх – у гарадскім парку і адна – у батанічным садзе гімназіі. Для абслугоўвання кожнай з іх было вылучана па 6 навучэнцаў, якія павінны былі рэгулярна папаўняць «сталоўкі» кормам і сачыць за іх чысцінёй. «Сталоўкі» меншага памеру былі развешаны па ўсім горадзе ў месцах, зручных для вучняў, якія за імі даглядалі.

З-за таго, што дадатковае харчаванне для птушак павінна было выкладацца штодзённа на працягу ўсёй зімы, навучэнцы не толькі прыносілі яго з хаты, але і збіралі па знаёмых, куплялі за сабраныя на дзейнасць гуртка грошы. Жыхары горада таксама прыносілі розны корм для птушак, які складвалі недалёка ад вялікіх сталовак. У чатырох вялікіх сталоўках птушкі толькі за адну зіму з'елі 250 кг розных прадуктаў, у іх ліку: 72 кг насення ільну і канопляў, 9 кг маку, 20 кг семак гарбузоў і сланечніку, 104 кг мяса, сала і іншых тлушчоў, 45 кг хлебабулачных вырабаў.

Дзеля матывацыі навучэнцаў былі заснаваны 4 прэміі. Вынікі працы ацэньваліся па наступных паказчыках: 1) дадатковае сілкаванне птушак павінна было забяспечвацца на працягу ўсёй зімы; 2) «сталоўкі» штодня павінны былі ачышчацца ад рэштак няз'едзенага корму і памёту птушак; 3) корм заўсёды павінен быў быць свежым; 4) корм павінен быў утрымліваць дастатковую колькасць тлушчоў; 5) абавязковым было вядзенне дзённіка з вынікамі сістэматычных назіранняў: а) якія птушкі і ў які час сілкуюцца, б) які корм і якімі птушкамі з'ядаецца, в) як паводзяць сябе птушкі ў адносінах да чалавека і падобных сабе і г.д.

На працягу ўсёй зімы адмыслова абраная камісія з трох чальцоў гуртка па некалькі разоў правярала рэгулярнасць выкладкі кармоў, іх якасць і стан «сталовак». З улікам дасягнутых вынікаў лепшыя вучні былі ўзнагароджаны прэміямі. Пры падвядзенні вынікаў вы-



**Дзеткі з птушынымі «сталоўкамі», 1931 год**

кладчык таксама адзначаў, што большасць вучняў ахвотна ўдзельнічала ў аказанні дапамогі птушкам. Пры сустрэчах у класе яны з захапленнем распавядалі адзін аднаму пра тое, якія птушкі прылятали да іх і якія прыгоды з імі адбыліся.

Нельга не адзначыць, што Ян Каханоўскі таксама імкнуўся прыцягнуць старшакласнікаў да барацьбы з браканьерамі, якія адмысловымі пасткамі лавілі пеўчых птушак. Для пошуку і знішчэння пастак праводзіліся рэйды па ўскраінах горада разам з навучэнцамі старэйшых класаў і паліцыянтамі. Не раз яны выпускалі на волю злоўленых на продаж рэдкіх і прыгожых птушак.

Вынікі ўсіх гэтых дзеянняў Каханоўскі падагульніў у артыкуле «Ахова птушак у Гродна», які выйшаў у польскім часопісе «Ахова прыроды» за 1931 год. Досвед назапашваўся з кожным годам, і ў 1935 годзе была выдадзена пашыраная справаздача «Якім чынам гурток аматараў прыроды дапамагае птушкам узімку» у гарадзенскім часопісе «Нёман». У артыкуле адзначалася, што да гэтага часу колькасць вялікіх птушыных «сталовак» павялічылася да пяці, а малых – паменшылася да 82. Як і раней, яны мелі даволі простую канструкцыю. Часцей за ўсё гэта была дошка, аббітая з бакоў фанерай, з прымацаванай зверху страхой. Дадаткова ў артыкуле былі апісаны спосабы замацавання кавалачкаў сала і іншых жывёльных тлушчоў такім чынам, каб да іх маглі дабрацца толькі сініцы і дзятлы. Прычым зразумець і выкарыстаць гэтыя спосабы пры майстраванні кармушкі маглі нават малодшыя школьнікі.

Як паказалі назіранні Яна Каханоўскага, шматгадовае дадатковае харчаванне ўзімку не толькі прыцягнула ў паркі вялікую колькасць птушак, але і дапамагла ім ўдала перазімоўваць. Для пашырэння работы ў гэтым накірунку прымаліся меры па далучэнні да аховы птушак настаўнікаў іншых школ горада. У лютым 1935 года на адным з паседжанняў таварыства настаўнікаў-біёлагаў Гродна, якое Ян Каханоўскі стварыў і ўзначальваў, ім былі прадэманстраваны найбольш арыгінальныя ўзоры гнездавых скрыняў і сталовак для птушак, зробленыя навучэнцамі мужчынскай гімназіі. Іншым школам было таксама рэкамендавана заняцца дапамогай птушкам шляхам іх дадатковага падкормлівання.

Свой досвед Ян Каханоўскі імкнуўся распаўсюдзіць і на сельскія школы. Увосень 1935 года ён разам з групай сваіх навучэнцаў здзейсніў паход з асветніцкай мэтай у вёску Малая Капліца, якая знаходзілася недалёка ад Гродна. Там адбылася сустрэча з настаўнікамі і вучнямі мясцовай пачатковай школы. Ім вучні старэйшага класа гімназіі распавялі аб гаспадарчым значэнні птушак у вёсцы і аб неабходнасці іх аховы. Школе было падорана 27 «сталовак» для птушак, якія гарадскія і сельскія дзеткі сумесна развесілі на дрэвах. Сельскія дзеці далі абяцанне рэгулярна напаўняць кармушкі, каб птушкі былі забяспечаны дадатковым сілкаваннем.

Для інтэнсіфікацыі выкладання біялогіі пры Гарадзенскай гімназіі Ян Каханоўскі і яго аднадумцы вырашылі заснаваць батанічны і заалагічны сады, якімі ў той час мог пахваліцца не кожны горад Заходняй Еўропы. Неўзабаве ў 1926 годзе, пасля карпатлівай падрыхтоўкі, Ян Каханоўскі заклаў непадалёк ад гімназіі Батанічны сад, які займаў плошчу 0,3 га і ў якім ужо ў канцы 1920-х налічвалася 830 відаў раслін, у тым ліку дрэў і кустоў.

Адначасова Ян Каханоўскі засноўвае ў гімназіі прыродазнаўчы музей і заалагічны аддзел батанічнага саду. Праз нейкі час у яго з'яўляецца ідэя стварэння ў горадзе сапраўднага заапарку. Аднак для размяшчэння жывёлаў патрабавалася спецыяльная тэрыторыя. Падтрымку няўрымслівы прафесар гімназіі знайшоў у мясцовым Таварыстве аматараў прыроды, якое ўрэшце рэшт дамаглося, каб Магістрат сваёй пастановай ад 2 верасня 1929 года перадаў пад заапарк былы велатрэк. Больш за тое, вялікія грошы былі выдзелены на пераезд і ўладкаванне звяроў і птушак на новым месцы. Праз 7 гадоў калекцыя заапарка налічвала ўжо каля 400 экспанатаў.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР Ян Каханоўскі працягваў выкладаць біялогію, але ўжо ў сярэдняй школе. Настаўнік працаваў гэтак жа добра, і Аддзел народнай асветы не мог нахваліцца ім. Таму за добрую працу Ян Каханоўскі быў прэміраваны пуцёўкай у горад Мічурынск: там біёлаг мусіў павучыцца і паглядзець на сады, вырашчаныя славутым савецкім селекцыянерам.

Калі Каханоўскі вярнуўся з паездкі, ён са здзіўленнем распавёў сябрам у настаўніцкай, што нічога цікавага ў Мічурынску не пабачыў, бо амаль такія ж сады пры Польшчы былі пры кожнай



**Малышава Анастасія Фёдараўна**

павятовай сельскагаспадарчай школе.

У тую ж ноч ён быў арыштаваны.

22 чэрвеня 1941 года Ян Кахаnoўскі сядзеў у Гарадзенскай турме і чакаў вынясення прысуду па сваёй справе. Пасля абеду НКУС атрымаў загад забіць усіх вязняў і пачаў расстрэл людзей непасрэдна ў камерах. Але тут здарыўся цуд: падчас чарговага нямецкага налёту на Гродна некалькі бомб упалі на тэрыторыю турмы. Разваліласся частка турэмнай сцяны, пачалася паніка, і некаторыя вязні здолелі вырвацца на волю. Сярод іх быў і Ян Каханоўскі...

У кастрычніку 1942 года падпольшчыкамі ў Гродна быў забіты нямецкі афіцэр, і шэф гродзенскага гестапа загадаў арыштаваць 100 закладнікаў, сярод якіх быў і Ян Каханоўскі. Кожнага чацвёртага з іх штурбанфюрэр Фром распарадзіўся расстраляць для застрашэння мясцовых жыхароў. Першапачаткова Каханоўскі апынуўся ў ліку «памілаваных», аднак прафесар ведаў, што ў яго старога знаёмага, дырэктара пачатковай школы Антона Вевюрскага вялікая сям'я, цяжарная жонка. І перад строем закладнікаў папрасіў: «Пан афіцэр, расстраляйце мяне замест Вевюрскага». Гестапавец спачатку не паверыў, што такое магчыма, і даў Каханоўскаму шанец перадумаць, але ён свайго рашэння не змяніў. І 20 кастрычніка 1942 года на тэрыторыі форта ў Навумавічах былы прафесар быў забіты. Астанкі Яна Каханоўскага, хоць фашысты і не дапускалі сваякоў і знаёмых да целаў расстраляных, былі ўсё ж знойдзены і пахаваны на каталіцкіх могілках у Гродна.

Цяпер вуліца, на якой месціцца Гродзенскі заапарк, носіць імя свайго заснавальніка.

Пасля вайны гарадскі заапарк працягваў выкарыстоўвацца настаўнікамі-біёлагамі пры вывучэнні заалогіі. Не быў забыты і досвед дапамогі птушкам, якую распачынаў Ян Каханоўскі са сваімі калегамі і вучнямі, але ў некалькі іншым кірунку. У 1950 годзе пры заапарку быў створаны гурток юных біёлагаў, у якім займалася 56 школьнікаў. Кіравалі яго працай экскурсаводы В.Н. Барысевіч і А.Ф. Малышева. У дзейнасці гэтага гуртка надавалася вялікая ўвага птушкам.

У тым жа годзе па ініцыятыве адміністрацыі заапарка ўладамі Гродна было заснавана агульнагарадское свята «Дзень птушак». У яго арганізацыі і правядзенні прымалі ўдзел гарадскія аддзел адукацыі і камітэт камсамола. У першы дзень свята ў ім удзельнічала 3750 школьнікаў. Яны развешвалі шпакоўні ў заапарку, гарадскіх парках і скверах. У далейшым Дзень птушак



**Здымкі птушак у гродзенскім заапарку, зробленыя да 1941 г. (з прыватнай калекцыі Фелікса Варашыльскага)**



стаў праводзіцца штогод у апошнюю нядзелю сакавіка. З кожным годам колькасць шпакоўняў павялічвалася. Так, 27 сакавіка 1955 года іх было развешана па горадзе 800.

Найбольш змястоўным і маштабным быў Дзень птушак, праведзены ў 1957 годзе. Месцам збору 500 удзельнікаў стаў Дом піянераў. Адтуль калона на чале з аркестрам прыбыла ў заапарк. Разам з сабою школьнікі прынеслі выраблены імі шпакоўні. Аўтары лепшых з іх былі прэміраваны адміністрацыяй заапарка. Для ўдзельнікаў свята была прачытана лекцыя «Птушкі – нашы сябры». Затым сярод школьнікаў была праведзена заавіктарына.

У наступныя гады святкаванне Дня птушак стала больш разнастайным. Школьнікаў пры правядзенні экскурсій знаёмілі не толькі з разнастайнасцю нашых птушак, але і з прычынамі іх знікнення і акцыямі для ратавання. Сталі дадавацца новыя мерапрыемствы: святочныя канцэрты, біялагічныя гульні і інш. У гэтым была вялікая заслуга Анастасіі Фёдараўны Малышавай, якая з 1963 па 1967 год працавала дырэктарам заапарка.

Традыцыя праводзіць Дзень птушак захоўвалася да канца 80-х гадоў, затым паступова стала занепадаць. Ёй на змену прыйшла дзейнасць Заходне-Беларускага таварыства аховы птушак, заснаванага ў Гродна ў 1993 годзе. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

# Путешествие в Иорданскую зиму



**Денис Китель | орнитолог**
**Фото автора**

Перед выходом из дома я глянул на столбик термометра за окном: он показывал «минус десять». Мне предстояло ворваться в Киев в легкой ветровке и обутым в летние кроссовки. Громадный рюкзак за плечами по-настоящему грел своим весом, и скинуть его по дороге от вокзала до аэропорта я так и не решился. Час мучений окончился на борту уютного самолета, а спустя мгновение и вовсе забылось, как я бежал по обледенелой дороге и дрожал от попавшего за шиворот снега. Прощай, зима, я снова отправляюсь в лето!

Год назад зиму мне довелось коротать в индийских джунглях в поисках тигров, на эту у меня планы были другие – Иордания... Я отправлялся на Ближний Восток.

## ОАЗИС ХАММАМАТ-МЭЙН

Удивительный оазис Хаммамат-Мэйн с горячими источниками и срывающимися со скал стометровыми водопадами дал приют десятку видов различных птиц. Стоит отойти на несколько метров от дороги, как в стороны разлетаются черно-хвостки *(Cercomela melanura)*. Жизнь этих птиц связана со скалами, поэтому чаще можно видеть их сидящими где-нибудь на обрыве. Встречаясь почти всегда поодиночке, они могут подарить наблюдателю приятные минуты, сперва недоверчиво поглядывая на вас свысока, а потом вдруг выхватывая зазевавшегося жука чуть ли не из-под самых ваших ног.

Где есть какая-либо древесная растительность выше метра, появляются желтопоясничные бюльбюли *(Pycnonotus xanthopygos)*. Бюльбюли имеют определенное родство с нашими дроздами, но поведением совершенно не напоминают их. Громкие трели еще издалека выдают местонахождение этих веселых птиц. Они затевают незамысловатые игры, беспричинно гоняются друг за другом по колючим кустам, а обнаружив человека, вдруг замирают и абсолютно беззвучно исчезают.

Практически всегда недалеко от оазисов живут африканские скалистые ласточки *(Ptyonoprogne fuligula)* – пепельно-серые острокрылые птички, которых видишь только в полете. Умело лавируя между скалами, быстро взмывая ввысь и падая в недосягаемую для бинокля бездну, эти летуны долго интриговали меня, прежде чем я смог-таки точно определить их и внести в свой список встреченных видов.

## ПУСТЫНИ

В английском языке есть выражение, оригинально описывающее пустыню – in the middle of nowhere («в центре ничего»). Следует также отметить, что пустыня пустыне рознь: некоторые из них навевают хандру и уныние, другие восхищают и завораживают.

Каждый тип пустынь встречает исследователя своим на-



**Белопоясничная каменка**



**Наскальная живопись в пустыне Вади-Рам**



**Горячий источник в Хаммамат-Мэйн**



Одногорбый верблюд



Пещеры Петры



Пустыня Вади-Рам

бором видов. Спустя неделю ты уже начинаешь узнавать биотопы кеклика *(Alectoris chukar)* на склонах гор с рассыпанными грудами камней; скотоцерки *(Scotocerca inquieta)* среди песков с жесткими колючими пучками кустов; белопоясничной каменки *(Oenanthe leucopyga)* в окраинных зонах горных пустынь с развалившимися старыми известняковыми скалами. И что больше всего удивляет, так это то, что ты влюбляешься в пустыню и начинаешь жить по ее законам.

Знакомство с самой пустыней я начал в природном резервате Дана. Глубокий бесконечный каньон начинался аутентичной деревней, слепленной из глины и утопающей в гранатовых садах. Отсюда я и стартовал, время от времени переключая внимание с обыкновенных пустельг *(Falco tinnunculus)* и черноголовых чеканов *(Saxicola torquata)* на шумную компанию тристрамских скворцов *(Onychognathus tristramii)*. Это были поистине общественные существа, встречающие восход солнца звонким пением и играми. Черные как смоль скворцы отливали металлическим блеском, а в полете обнажали оранжевые пятна на крыльях, словно включая и выключая фонарики.

После Даны я попал в пустыню Вади-Рам – самую известную и, по рассказам, самую красивую пустыню Иордании. Спорить не буду, потому что величие ее захватывало дух. Протянувшиеся до горизонта пустоши, равномерно усеянные верблюжьей колючкой; замысловатые природные узоры на скалах, напоминающие потекшую карамель; естественный мост с одной скалы на другу на высоте нескольких десятков метров; красные дюны – это далеко не все, что оставляет в памяти неизгладимые впечатления... Вади-Рам известна наскальной живописью древних людей. Если верить рисункам, в прежние времена здесь водилось много зверей и птиц. Нынешние же обитатели этих мест – пустынные вороны *(Corvus ruficollis)*. Они не брезгуют остатками еды, оставленной туристами; что еще птицы находят в этих песках – неизвестно.

До чего замечательно окунуться в воды горячих источников, вырывающихся из-под скалы и срывающихся водопадом вниз! От воды поднимается столб пара, окутывая горы полупрозрачной дымкой, а резкий запах вокруг свидетельствует о высоком содержании минеральных веществ и металлов в воде. Такие источники довольно обычны в пустынных оазисах. Вокруг них всегда можно увидеть белых *(Motacilla alba)* и горных *(Motacilla cinerea)* трясогузок. И если первые держатся по окраинам водотоков, то вторые смело садятся на омываемые течением и выступающие из воды камни.

Ночуя как-то в бедуинском шатре, я проснулся ночью от шума дождя. Несмотря на убеждения, что в это время дожди здесь не редкость, само осознание факта дождя в пустыне меня несколько развеселило, и я отправился гулять босиком по мокрому песку. Быстро замерзнув, вернулся и закутался в спальник.

Вот такие иорданские пустыни!..

## ОДНО ИЗ ЧУДЕС СВЕТА: ПЕТРА

7 июля 2007 года, в день «трех семерок», в столице Португалии Лиссабоне были названы новые семь чудес света. Одно из них располагается в Иордании и называется Петра. Это пещерный город, вырезанный прямо в скалах. Грандиозность сооружений Петры захватывает дух, а от узоров красного песчаника и вовсе



Синайская чечевица (самка)



Агама-гардун



Один из прямокрылых обитателей пустыни



Синий каменный дрозд

глаз отвести нельзя, и тем более поверить, что это сотворила сама природа.

Пещеры Петры давно обосновали сизые голуби *(Columba livia)*, имеющие фенотип дикой формы: с двумя черными полосами на крыльях и белым надхвостьем. Осматриваясь по сторонам в этом древнем городе, можно заметить множество интересных птиц. Довольно обычны здесь траурные каменки *(Oenanthe lugans)* и синие каменные дрозды *(Monticola solitaris)*. И если на каменок я уже успел насмотреться ранее, то синих дроздов видел впервые. К моему изумлению, прямо у меня на глазах самец достал в скалах жирную личинку прямо из ниоткуда! Иногда птицы разных видов собирались вместе, и такое разнообразие особенно радовало: из куста доносилось веселое щебетание скотоцерок, на камнях чекали каменки, а дрозды с бюльбюлями обосновались в римском амфитеатре.

Небо над Петрой было усеяно скалистыми ласточками, которые, однако, не улетали далеко от пещер, куда прятались иногда от глаз наблюдателя. Как обычно бывает, птицы появлялись внезапно и так же внезапно исчезали. Из-за крупных скал вылетела стая щетинистых ворон *(Corvus rhipidurus)* и нарушила тишину своеобразным карканьем. Интересной формой крыльев и хвоста (он практически сливается с телом) они напоминали запущенных в небо воздушных змеев.

Проходя мимо скал, я всегда удивлялся отсутствию на них рептилий. И вот, наконец, практически на дороге были найдены агамы-гардуны *(Laudakia stellio)*. При моем приближении одна из агам убежала под груду камней, а вторая без стеснения осталась сидеть на прежнем месте. Я порыскал в ближайшем колючем кусте и нашел крупного синего кузнечика, которого посадил рядом с агамой. Слегка склонив голову, ящерица внимательно изучила предложенное угощение, затем медленно наклонила корпус вперед – и в молниеносном броске схватила кузнечика за голову. Процедура поедания заняла примерно полчаса, причем большую часть времени агама задумчиво смотрела куда-то, как будто прицениvалась, выбирая на рынке вещь.

Путешествие подходило к концу. Я прибыл в свой последний пункт назначения – город Акабу на берегу Красного моря. Город раскинулся на много километров вдоль побережья, и именно здесь я увидел домовую ворону *(Corvus splendens)*, а малые египетские горлицы *(Streptopelia senegalensis)* своей обычностью уже перестали удивлять. Я покидал Хашемитское королевство Иордания и отправлялся в путешествие по Египту, где меня ждали новые пустыни, величественный Нил, пирамиды… Но это уже совсем другая история!

## Птушкі насамрэч вучацца будаваць гнёзды



Новае даследаванне паказала, што навык будавання гнёздаў набываецца птушкамі ў працэсе навучання, а не з'яўляецца безумоўным рэфлексам.

Навукоўцы з шатландскіх універсітэтаў Эдынбурга, Глазго і ўніверсітэта святога Андрэя запісвалі на відэа чарналобых ткачыкаў *Ploceus velatus* у Батсване. Від быў абраны таму, што гэтыя птушкі будуюць шмат даволі складаных гнёздаў на працягу гнездавога сезону. Д-р Патрык Уэлш (Dr Patrick Walsh) з Эдынбургскага ўніверсітэта паведаміў, што даследаванне выявіла «значную ролю досведу» ў гэтым працэсе.

Асобныя птушкі ўдасканальвалі сваю тэхніку з кожным новым пабудаваным гняздом, а некаторыя нават змянялі стратэгію: будавалі злева направа і наадварот. Набіраючыся досведу, птушкі раянялі менш травы і дзейнічалі больш спрытна.

«Калі б птушкі будавалі свае гнёзды паводле генетычнай праграмы, яны б рабілі гэта штораз аднолькава. Аднак аказалася, што гэта не так,» – адзначыў д-р Уэлш.

Чарналобыя ткачыкі паказалі вялікую разнастайнасць уменняў, што развіліся ў іх у працэсе набыцця вопыту. «Нават птушкам патрэбна практыка, каб стаць лепшымі будаўнікамі,» – падсумаваў д-р Уэлш.

Даследаванне было апублікавана ў часопісе «Behavioural Processes journal».

## Новы від птушак з Гавайскіх астравоў



Упершыню за апошнія 37 гадоў навукоўцы апісалі новы від птушак у ЗША. Цікава, што адкрыццё адбылося дзякуючы птушцы, што знаходзілася ў музейнай калекцыі з 1963 года.

Рыхтуючы кнігу аб птушках Гаваяў, Пітэр Пайл (Peter Pyle) апрацоўваў зборы розных музеяў. У адным з іх ён знайшоў скурку буравесніка, якую не змог ідэнтыфікаваць: экземпляр быў меншы і меў карацейшыя крылы і хвост за вядомыя віды.

Генетычны аналіз паказаў, што гэта сапраўды невядомы навуцы від, які выразна адрозніваецца ад іншых буравеснікаў паводле генатыпу. Пітэр Пайл і арнітолагі са Смітсанаўскага ўніверсітэта назвалі новы від буравеснікам Брайана *Puffinus bryani* – у гонар Эдвіна Брайана (Edwin Bryan), былога куратара музея Бішапа ў Ганалулу. Публікацыя пра адкрыццё з'явілася ў часопісе «The Condor».

Буравеснік Брайана – гэта другі новы від з Гавайскіх астравоў, апісаны за апошнія 40 гадоў. Першым з'яўляецца По'оўлі *Melamprosops phaeosoma*, апісаны ў 1974 годзе.

Пра новы від амаль нічога не вядома. Паводле Пайла, ёсць як мінімум яшчэ адна птушка, здымак і прамеры якой адпавядаюць новаапісанаму віду. Яна была злоўлена і акальцавана ў 1990 г. на атоле Мідуэй. Невялікія і невызначаныя паводле віду буравеснікі з Японіі, Каліфорніі і Аляскі таксама могуць адносіцца да буравесніка Брайана.

## Стратэгія размнажэння: першым кінуць сваё гняздо



Цікавыя вынікі паказалі даследаванні стратэгіі размнажэння рэмезаў *Remiz pendulinus*, якія праводзіліся на працягу 4 гадоў на рыбаводных ставах у Заходняй Польшчы.

У даследаванай папуляцыі гэтых невялікіх вераб'іных птушак на працягу сезону размнажэння 42% самак і 44% самцоў капуліравалі больш чым з адным партнёрам. Максімальная колькасць кладак, у якой асобныя самцы або самкі прымалі ўдзел, была роўнай пяці. Апекаваўся будучымі патомкамі толькі адзін з бацькоў. Цікава, што для 45% гнёзд гэта была самка, для 17% – самец, а 38% кладак былі ўвогуле кінуты бацькамі да пачатку інкубацыі.

Такім чынам, большасць самцоў рэмезаў не даглядала ні адно са сваіх гнёздаў. Частка самак апекавалася дзвюма сваімі кладкамі і птушанятамі за сезон. Велічыня кладкі, колькасць птушанят і злёткаў была большай у тых выпадках, калі імі займалася самка, чым калі гняздо даглядаў самец.

Колькасць патомкаў у самцоў залежала ад колькасці самак, з якімі ён спраўляўся, у самак жа карэляцыі колькасці партнёраў і патомства не назіралася. Найбольшы эфект размнажэння мелі тыя самкі рэмезаў, якія бралі на сябе цяжар апекі за двума гнёздамі на працягу аднаго сезона гнездавання. Не стала нечаканасцю тое, што самую маленькую колькасць патомкаў мелі тыя самкі, якія кідалі ўсе свае кладкі.

**Падрыхтаваў Дзьмітры Вінчэўскі паводле матэрыялаў www.birdwatch.by Здымкі Георгія Гулеўскага, Дзмітрыя Якубовіча і з www.osme.org, www.efinch.com, Birds Russia, www.wired.com, www.noordzeeloket.nl, www.mongabay.com**

